# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1693) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 23 КАСТРЫЧНІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## УСЁЙ СЯМ'ЁЙ

Уся сям'я Сяргея Лукашука, чатыры асобы, — актыўныя культурныя дзеячы беларускай нівы, усе спяваюць. Усе ўдзельнічаюць у вялікай працы, якую разгарнуў Сяргей у Бельску, ён — слаўны творца слаўных „Васілёчкаў".

Сёння аб адным сапрана „Васілёчкаў" — Валі Лукашук — жонцы Сяргея, маці Асі, што спявае ў школьным калектыве „Нашы дзеці", і Томка — саліста і лаўрэата школьнага конкурсу „Беларуская песня". Валя Лукашук працуе сакратаршай у беларускай пачатковай школе № 3 у Бельску. „Вы так добра, Валя, гаворыце па-беларуску, дзе вучыліся? — пытаюся. Валя адказвае, што пачатковую школу закончыла ў Вульцы-Выганоўскай, куды хадзіла з роднай вёскі Чэхі-Забалотныя. У той жа школе Валя вучылася беларускай мове. Там была тады вельмі добрая настаўніца беларускай мовы — Вольга Ігнацюк. Яна, кажа Валя, разбудзіла ў нас зацікаўленне і любоў да гэтай мовы, укараніла яе ў нас. Цяпер пані Оля на пенсіі, жыве ў Бельску.

(Працяг на стар. 4)



*У поўным „Васілёчкавым" строі перад выхадам на сцэну Валя прызадумалася...*

## ВІТАЕМ XI З'ЕЗД БГКТ!

У нядзелю, 23 кастрычніка 1988 г., адбудзецца ў Беластоку XI Краёвы З'езд дэлегатаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У гэтым найвышэйшым форуме нашай беларускай арганізацыі прыме ўдзел 117 дэлегатаў — прадстаўнікоў 6-тысячнай грамады БГКТоўцаў. Перш за ўсё ацэняць яны дзейнасць Таварыства за апошнія чатыры гады, прымуць праграму дзейнасці на гады 1988—1992 і выбяруць новыя ўлады.

Перыяд, які аддзяляе нас ад папярэдняга, X З'езда, хаця быў даволі цяжкі, то аднак прынёс новыя якасці ў дзейнасці Таварыства. Змены ў грамадска-палітычным жыцці нашай краіны і СССР ствараюць лепшыя ўмовы для працы і нашай арганізацыі. Дазволіла гэта выйсці Таварыству з ізаляванага становішча, наладзіць больш шырокія кантакты і супрацоўніцтва з адпаведнымі культурна-асветнымі ўстановамі. У гэтым годзе пачаліся разгортвацца больш цесныя сувязі з установамі ў БССР, а зацікаўленне нашымі справамі Таварыства „Радзіма" з Мінска дазваляе спадзявацца на значную падтрымку нашых дзеянняў і дапамогу ў вырашэнні некаторых пытанняў.

Дзейнасць БГКТ за гады 1984 — 1988 найбольш эфектыўнай была ў вясковым асяроддзі і сярод школьнай моладзі, якая вывучае беларускую мову. Культурна-асветная праца ў гэтых асяроддзях вялася ў традыцыйных формах, як конкурсы, агляды, канцэрты і фэсты. Варта адзначыць, што конкурс „Беларуская песня" з году ў год узбагачвае сваю форму і паволі ператвараецца ў фестываль.

Хочацца пажадаць Таварыству ў будучым, каб разгарнула шырэйшую дзейнасць сярод беларусаў, пражываючых у гарадах. Па-за ўплывамі БГКТ у гарадскім асяроддзі знаходзяцца рабочыя, школьная і студэнцкая моладзь, інтэлігенцыя, а прапанаваныя дагэтуль формы працы не заўсёды настолькі атракцыйныя, каб прыцягнуць іх да нашай арганізацыі.

Найбольш хвалюючая справа гэта выдавецкая дзейнасць. З-за фінансавых абставін звялася

(Працяг на стар. 2)

Чараўкі ў Юхнавецкай гміне гэта прыгожы і ціхі прынараўскі куточак нашай Беласточчыны. Лес і вада, поле і сенажаць, грыбы і ягады, пах кветак і яблык... Усё гэта спрыяе захаванню ўнутранага спакою, уціхамірвае растрэсеныя нервы, замацоўвае здароўе.

Дык нездарма кіраўніцтва беластоцкай ваяводскай арганізацыі гурткоўцаў менавіта гэтае ціхае і прыгожае месца выбралі для дома вясковых пенсіянераў. Пачын нарадзіўся недзе на пачатку 1983 года. Прадстаўнікі аддзела здароўя і грамадскай апекі Ваяводскай управы ў Беластоку ацэньваюць, што зараз у Беластоцкім ваяводстве патрабуе пастаяннай апекі амаль 1.200 сялян. І не справа тут у матэрыяльнай нястачы. Гэтыя людзі найчасцей маюць сякі-такі грош, які атрымоўваюць у замен за здадзеную гаспадарку. А калі не дабіліся па нейкіх прычынах пажыццёвай пенсіі, дык гмінныя сацыяльныя службы выдзяляюць ім пастаянную дапамогу са сваіх фондаў. Грашыма, аднак, не напоўніш галодны страўнік, не напаліш у печы, не паратуеш кволае здароўе. Добра яшчэ, калі знойдзецца спагадлівая суседка... У адной вёсцы каля Бельска здарылася так, што ў хаце ўзімку памерла адзінокая бабуля і яе труп два тыдні праляжаў у той хаце, пакуль людзі дадумаліся пацікавіцца яе лёсам...




1 чэрвеня 1983 года рада Ваяводскага саюза гурткоў прыняла пастанову аб пабудове грамадскім пачынам вясковага дома пенсіянераў у Чараўках. У гэтым маляўнічым куточку нашай зямлі, быццам бы выбраным для спакойнай старасці, якраз знаходзіўся апусцелы, але яшчэ вельмі салідны, цагляны двухпавярховы будынак даўнейшай школы.

Задума была высакародная і шматмаштабная. План прадбачваў перабудову існуючага будынка школы і пабудову ад фундаментаў яшчэ трох іншых будынкаў, якія разам стварылі б добра абсталяваны жыллёвы комплекс для адпачынку і захавання здароўя. Поўны кошт рэалізацыі гэтай будовы па цэнах з 1983 года быў планаваны на 150 мільёнаў злотых. Фактычна ён амаль падвоіўся. Адну трэцюю частку гэтых коштаў узялі на сябе сяляне і сельскагаспадарчыя гурткі. Былі выпушчаны цаглінкі вартасцю ў 100 і 200 злотых, продаж якіх папаўняў фонд пабудовы дома пенсіянераў. Асобныя спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў і штатныя працаўнікі ваяводскага праўлення гурткоўскай арганізацыі часта выязджалі на грамадскі пачын пры будове ў Чараўках. Праца была наладжана спраўна і прадумана.

(Працяг на стар. 6)

## ТРЫНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН У АЎТОБУСЕ

Шэсць гадоў таму назад я паляцеў з Нью-Йорка ў Кліўленд самалётам і, зразумела, нічога цікавага не пабачыў. Восемсот кіламетраў праляцеў большменш за гадзіну. На гэты раз мы з Барташэвічам рашылі гэтыя восемсот кіламетраў праехаць аўтобусам. І паехалі. Быў гэта першы мой праезд амерыканскім рэйсавым аўтобусам.

Па-першае, хачу сказаць, што аўтобус з Нью-Йорка ў Кліўленд каштуе восемдзесят тры долары. Калі прызнацца, дык я не ведаю, дорага гэта ці танна, думаю аднак, што дарагавата.

А што датычыць саміх аўтобусаў. Прыглядзеўся я да іх на вакзале, калі яны раз за разам пад'язджалі на розныя стаянкі. Прыглядзеўся і з сярэдзіны да тых трох аўтобусаў, якімі ехалі мы ў Кліўленд і з Кліўленда. Трэба сказаць, што аўтобусы гэтыя на вельмі высокім тэхнічным узроўні. Зрэшты, калі б было інакш, дык, мабыць, чалавек замучыўся б на смерць, едучы так, як мы ехалі, трынаццаць гадзін. Амерыканскія аўтобусы вельмі высокія. І гэта важна, бо седзячы высока, намнога лепш бачыш наваколле, чым седзячы, скажам, у легкавой машыне. Вельмі выгодныя ў аўтобусах крэслы і найбольшая для нас навінка — аўтобусныя туалеты, у якіх пасажыры могуць аформіць фізіялагічныя патрэбы. Для мяне гэта было настолькі непрывычным, што я ніводнага разу з гэтага туалета не скарыстаў. Не было гэта праблемай, тым болей, што большменш кожныя сто пяцьдзесят кіламетраў аўтобус затрымліваўся і пасажыры выходзілі на




аўтобусныя вакзалы. Свайго роду дзіковінкай для мяне было тое, што на гэтых вакзалах стаяць спецыфічныя крэслы. Спецыфіка іх заключаецца ў тым, што замантаваны на гэтых крэслах невялікія тэлевізаркі. Калі пасажыр хоча, дык кідае, не ведаю якую, манету і аглядае праграму. Цікава, што толькі нямногія пасажыры ўключалі тэлевізары. Большасць сядзела так сабе, дэманструючы поўную абыякавасць у адносінах да тэлевізараў. Аб дасканалым стане публічных вакзальных туалетаў я ўжо пісаў шэсць гадоў таму назад. Дадам толькі, што не бачыш у іх ніякага бруду і не чуеш непрыемнага запаху. Аж дзіў чалавека бярэ, што амерыканцы, якія так неахайна паводзяць сябе на вуліцы, усё на яе кідаючы, такія акуратныя ў туалетах. Гэта прыемна і тут наша грамадства многаму ў амерыканцаў магло б навучыцца, бо вядома, у якім стане знаходзяцца нашы публічныя туалеты. Характэрна яшчэ і тое, што амерыканскія туалеты, як правіла, бясплатныя. Калі мы знаходзімся пры гэтай тэме, дык хачу расказаць аб цікавым эпізодзе. У адным з вакзальных туалетаў над самым пісуарам заўважыў я маленькі плакацік з надпісам „Езус цябе кахае“. Відавочна, плакацік нехта прыклеіў вельмі даўно, бо папера ўжо пажоўкла і яе край адклеіўся. Ці нехта з чытачоў уяўляе сабе нешта такое ў Польшчы? Я асабіста не ўяўляю. Першы-лепшы наведвальнік, не гаворачы ўжо аб абслузе, сарваў бы такі плакацік і пры гэтым найгоршымі словамі аблаяў бы віноўніка такой прафанацыі і богаборства. А тут перавальваюцца праз памяшканне тысячы людзей, якія абыякава паглядаюць на плакацік, і ніхто з іх не працягвае рукі, каб яго сарваць. У гэтым, думаю, таксама праяўляецца спецыфіка Амерыкі.

Падарожжа з Нью-Йорка ў Кліўленд дало мне магчымасць прыглядзецца да амерыканскага пейзажу. Прыгледзецца і захапіцца ім. Амаль на працягу ўсіх васьмісот кіламетраў выступала паўгарыстая мясцовасць. Усе схілы гор пакрытыя лісцянымі лясамі. Лясы гэтыя пафарбавала, паводле свайго густу, восень. Як жа цудоўная панарама рассцілалася абапал дарогі і як прыемна было глядзець на яе і момантамі нічога не думаць, нічым не пераймацца, а толькі глядзець на хараство і час ад часу сягаць рукою ў торбу, дзе была куча смачных бутэрбродаў і велізарны бідон кока-колы. Зышоўшы з аўтобуса ў Кліўлендзе, мы не адчувалі ніякай стомленасці, хаця ехалі трынаццаць гадзін.

**Алесь Барскі**

## ПЕРАД XI З'ЕЗДАМ БГКТ

### МІКАЛАЙ ВАРАНЕЦКІ



Выбраны ён дэлегатам XI З'езда БГКТ на справаздачна-выбарнай канферэнцыі аддзела ў Нараўцы. Па прафесіі настаўнік, выкладчык рускай мовы і літаратуры, а ў бягучым годзе таксама і беларускай мовы. З яе навучаннем існуюць праблемы. Многія школьнікі складаюць заявы аб звальненні іх ад навучання роднай мовы, якой цяпер у тыдзень 4 урокі.

Аб гэтай прыкрай сітуацыі сігналізуе Мікалай Варанецкі. І неяк цяжка становіцца на сэрцы, што там, дзе жывуць беларусы, там, дзе падаўляючая большасць настаўнікаў-беларусаў, паяўляецца такая сітуацыя.

Навучанне беларускай мовы, падрыхтоўка настаўнікаў да гэтага прадмета, на думку Мікалая Варанецкага, павінна быць адным з важнейшых пытанняў XI З'езда БГКТ. Неабходна на З'ездзе паставіць справу стварэння новага штатнага эстраднага калектыву на ўзор былой слаўнай „Лявоніхі“. На гэта павінны знайсціся грошы.

Нецярпімай справай з'яўляецца спозненае выдаванне беларускіх календароў. Ужо час пакончыць з такім станам, ужо час, каб і ў ГП БГКТ нешта перабудавалася, сталася больш сучасным. Бо калі што-небудзь арганізаваць — ці народны беларускі фэст, ці канцэрты калектываў, ці агляды, — дык усё павінна быць на высокім узроўні, бо гэтага патрабуе наш час.

(мх)

### ЛЮДМІЛА КІСЛЯК



Выпускніца Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, працавала пяць год у Гайнаўскім раённым доме культуры. Цяпер яна дырэктар Гайнаўскага гміннага асяродка культуры ў Дубінах. Яна абазнана з культурна-асветнай працай, з аматарскім рухам, з'яўляецца членам гайнаўскага беларускага калектыву. Плануе арганізаваць яшчэ адзін самадзейны калектыў (у Дубінах існуе вакальна-інструментальны калектыў „Дубіны“ пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Скепкі) з фальклорным уклонам.

Ад нядаўна Людміла Кісляк з'яўляецца старшынёй Гайнаўскага гміннага аддзела БГКТ. Гэта энергічная дзяўчына імкнецца да эфектыўнай дзейнасці, каб адчувальнае было існаванне беларускай арганізацыі ў вёсках Гайнаўскай гміны. Але каб так сталася хутчэй, неабходная дапамога і з боку Галоўнага праўлення, а перш за ўсё яго Прэзідыума. Трэба абменьвацца вопытам з іншымі аддзеламі. І таму неабходныя сустрэчы ці нарады са старшынямі ўсіх 17 аддзелаў БГКТ. Трэба, каб яны пазнаёміліся, каб наладжвалі супрацоўніцтва між аддзеламі. Гэтак быць не можа, каб старшыні аддзелаў, іх намеснікі ці сакратары не зналі і не бачылі ніколі членаў Прэзідыума ГП.

Наступная справа. Прэзідыум ГП павінен мець уплыў на беларускія радыёперадачы. Мала таго, што яны вельмі кароткія, дык яшчэ вядуцца на нізкім узроўні. Замнога расказаў розных бабуляў і дзядуляў аб сваім жыцці. І гэта не было б дрэнна, каб радыёперадача працягвалася тры гадзіны. Але калі толькі паўгадзіны...

Нашае асяроддзе жадае, каб радыёперадачы працягваліся не менш як гадзіну і каб былі дынамічныя. Некаторыя сучасныя элементы варта ўзяць з тэлевізійнага „Тэлеэкспрэса“.

(мх)

### ВАСІЛЬ СЕГЕНЬ



Справаздачна-выбарная канферэнцыя аддзела БГКТ у Дубічах-Царкоўных ізноў выбрала яго старшынёю праўлення. І гэта вельмі добра, бо ён цяпер з'яўляецца інспектарам асветы і выхавання ў Дубічах-Царкоўных. Справа ў тым, што ад пастаўы інспектара, ад яго адносін да навучання беларускай мовы ў школах найбольш залежыць поспех у гэтай галіне.

Як усюды ў беларускіх асяроддзях, людзі хочуць мець харавыя калектывы, хочуць спяваць. Але арганізаваць хор цяжка, бо няма музычных інструктараў. Што зрабіць, як працаваць, каб такіх людзей прыцягнуць на вёску — вось на гэтыя справы павінен звярнуць увагу З'езд БГКТ.

Важнай справай для актыву БГКТ і для многіх асоб у вясковых гуртках з'яўляецца кантакт з Савецкай Беларуссю, з якой людзі звязаны духоўна. Што трэба зрабіць, каб сустрэчы, знаёмствы з Беларуссю былі даступныя Беларускаму таварыству, на гэтае пытанне З'езд павінен таксама даць адказ.

(мх)

(Працяг са стар. 1)

### ВІТАЕМ XI З'ЕЗД БГКТ!

яна ўжо толькі да штогадовага выдання „Беларускага календара“, які і так выходзіць са значным спазненнем.

Самай важнай падзеяй у справаздачным перыядзе было тое, што пачалася пабудова Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Добры пачатак зроблены, але яшчэ шмат працы чакае кіраўніцтва і актывістаў БГКТ пры нашым музеі.

Тыя і іншыя праблемы абмяркуюць дэлегаты на XI З'ездзе, адлюструюць іх у праграме. Дэлегатам жадаем плённай і канструктыўнай дыскусіі, а новаму Галоўнаму праўленню БГКТ — поспехаў у ажыццяўленні з'ездаўскіх пастаноў!

**Рэдакцыя**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Урок практычных заняткаў у Падставовай школе № 3 у Бельску. Тэма заняткаў — выкарыстоўванне гароднiны ў штодзённым харчаваннi. Вядома, што найбольш карысна есцi зялянiну ў свежым, сырым выглядзе. Таму настаўнiца Ялянта Савiцкая падзялiла клас на тры групы. Хлопцы ў асобнай групе вучылiся прыпраўляць салат, дзе асноўным прадуктам была капуста. Дзяўчаткi ў адной групе спецыялiзавалiся ў салаце з папрыкi, а ў другой — з пораў. Усе тры групы паспяхова справiлiся з такiм сур'ёзным заданнем. Салаткi ўдалiся пахучыя i смакавiтыя. Доказам гэтага было тое, што ўсё падрыхтаванае дзецi з апетытам самi i з'елi.

Фота Я. Чэрнякевiч.

Сяргей Грахоўскi

К анчалася лета. Дачнiкi раз'язджалiся з Нарачы. На возеры было пуста i холадна.

З ранiцы Алiк стаяў па каленi ў празрыстай вадзе i запускаў свой самаходны катэр. Цяпер яму нiхто не замiнаў, нiхто не прасiў у яго цацку, каб пагуляць. Сябры даўно паехалi. Сумна. Толькi ж i яны сёння ад'язджаюць. Алiк выключыў матор, вылiў з катэра ваду, выцер яго аб трусiкi i пабег да мамы.

Пасярод хаты ляжалi клункi, стаялi чамаданы. Хата адразу апусцела, зрабiлася чужая i гулкая.

— А катэр куды? — трывожна спытаў у мамы Алiк.

— Прабегаў, а цяпер куды хочаш, туды i кладзi. Калi ён табе патрэбен, павязеш у руках.

Дзiўная мама. Кажа: „Калi патрэбен". Алiк гатоў пакiнуць усё, толькi не катэр: ён жа амаль сапраўдны, толькi маленькi, i матор сапраўдны, падключаны да батарэйкi, i руль, i нават якар.

У сенцах Алiк знайшоў вялiкi кардонны карабок з-пад чаравiкаў, матор абкруцiў ватаю, катэр загарнуў у газету, паклаў у карабок, перавязаў нiткамi i сказаў маме, што можна ехаць.

Аўтобус адпраўляўся пад вечар. У iм было поўна загарэлых, гаманлiвых i вясёлых дачнiкаў i турыстаў.

Алiк сеў каля акна якраз супроць шафёрскай кабiны i не зводзiў вачэй з вадзiцеля. Ён сачыў за кожным яго рухам.

За Алiкам сядзеў малады лейтэнант-танкiст. Нахiлiўшыся да самага вуха, ён пачаў тлумачыць Алiку, што робiць шафёр.

— Вось бачыш, збавiў газ, i машына пайшла цiшэй... А цяпер пераключыў хуткасць... прыбавiў газ. Вiдаць, хочаш быць шафёрам?

— Ага, — адказаў Алiк. — А вы таксама да Мiнска едзеце?

— Не, брат, толькi да Маладзечна, а там на цягнiк i — у часць.

Алiк змоўк. Яму было шкода, што хутка iх пакiне гэты гаваркi i вясёлы лейтэнант.




Аўтобус iмчаўся па гладкай асфальтавай дарозе, праз густы бор. Каля самай шашы цвiў верас, падфарбаваны вячэрнiм барвовым сонцам, стромкiя сосны здавалiся адлiтымi з чырвонай медзi. За акном са свiстам праносiлiся стрэчныя машыны. Алiк пачаў iх лiчыць. Не далiчыў i да сотнi, як нешта ў iхнiм аўтобусе стрэлiла, машына задрыжала, збочыла на край дарогi i стала.

— Загараем. Вiдаць, балон спусцiў, — загаманiлi пасажыры.

— Гэта не балон. У маторы нешта стрэлiла, — растлумачыў танкiст i паглядзеў на гадзiннiк.

Шафёр выскачыў з кабiны i пабег назад, да матора. Пасажыры пачалi выходзiць. Хацеў выскачыць i Алiк, але мама не пусцiла.

— Няма чаго лётаць. Хутка паедзем, лепш пасядзi.

Алiку так карцела паглядзець, што там робiць шафёр, якi матор у такiм вялiкiм аўтобусе! Ён высунуў галаву ў адчыненае акно, але бачыў толькi пасажыраў, што тоўпiлiся вакол шафёра.

Праз некаторы час увайшоў высокi хлопец у акулярах i пажартаваў:

— Распакоўвайце пасцелi, начаваць прыйдзецца...

— А што там? — дапытвалiся пасажыры.

— Iскры няма. Праводку прабiла. I шафёр корпаецца i танкiст гэты, а машына нi з месца.

Алiк бачыў, як пасажыры спынялi стрэчныя машыны, чагосьцi прасiлi ў шафёраў, а тыя толькi круцiлi галовамi i ехалi далей. Людзi зноў падыходзiлi да аўтобуса, нешта раiлi вадзiцелю, спрабавалi завесцi матор ручкаю, але той упарта маўчаў.

Некаторыя пачалi разбрыдацца па лесе: хто збiраў брусніцы i жменькаю сыпаў у рот, хто рваў кветкi, хто шукаў грыбоў.

Аўтобус стаяў. Шафёр лазiў пад машыну, даставаў з-пад свайго сядзення ключы, пласкагубцы, але нiяк не мог даць рады.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКIХ

Нэлi Тулупава

### КАША

Кашу я зварыла,
Не перасалiла,
Маму, тату i бабулю
Кашай накармiла.
Елi i хвалiлi:
— Малайчына, Лiля!
— Ешце, — я iм гавару, —
Я яшчэ вам навару!

### УРОК

Зараз вывучым урок —
Перадiчым мы сарок:
На бярозе
Дзве сядзяць,
Над сцяжынкай
Тры ляцяць.
А ўсiх разам будзе —
Пяць!

### Я МАЛЮЮ

— Намалюю я клубочак:
Вось якi ў мяне каточак.
Падзiвiўся Косцiк:
— А дзе ж яго хвосцiк?

### СТУК-ГРУК

Стук-грук,
Стук-грук,
У кутку жыве павук.
Я нiкому не скажу,
Толькi кошцы пакажу.
Кошка паглядзела,
Лапай — цоп! — i з'ела.
— Ах ты, кацiшча,
Ах ты, вусацiшча,
Нашто з'ела павука?
Не дам табе малака!

### ДЗЕД-БАРАДЗЕД

— Вырас лес,
Вырас лес.
— А дзе?
— А дзе?
— У дзеда на барадзе.

Ой ты, дзед-барадзед,
Не калiся барадой,
Палiвай яе вадой.
Будзе свой у нас
Карабас-Барабас!

### ЛАДЫ

У дачушкi Верачкi
Пальцы, бы цукерачкi.
У дачушкi Ладачкi
Шчочкi, як аладачкi,
Лады мае, ладачкi.

### ВОЧКI

Сiненькiя вочкi
У маленькай дочкi.
Кажуць вочкам матылькi:
— Вы не вочкi —
васiлькi,
А можа, званочкi?—
— Не, мы — вочкi, вочкi!

### МАМIНА ДАЧУШКА

Гэта — вочкi,
Гэта — носiк,
Гэта — ропiк,
Гэта — вушка,
Гэта — мамiна дачушка!

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ЯКАЯ ТЫ ЦУДОЎНАЯ, РАДЗІМА

Словы У. Карызны — Музыка Ю. Семянякі

Бярозы ў нас вакол, як у Расіі,
Адно і неба, і шляхі у нас.
І, як па ўсёй Радзіме, вецер сіні.
І гэтакая ж сіняя вясна.

Прыпеў:

Я тут, пад гэтым небам, нарадзіўся
І вымаўляю з гордасцю ўслых:
„Якая ты цудоўная, Радзіма,
Нібы матуля, родная для ўсіх!“

Ніколі б у змаганні не ўстаяла
Ты без Расіі, без сваіх сясцёр,
Старонка светлазорная Купалы,
Мой светлы край між казачных азёр.

Прыпеў.

Нямала сцежак і дарог схадзіў я —
І ўсюды славен дружбай чалавек.
Адна ты у нас, вялікая Радзіма,
Дык будзь благаслаўленная навек.

Прыпеў.

Мал. В. Гладкоўскага.

## РАССЕЯНАСЦЬ БАРАДЗІНА

Неяк кампазітар Аляксандр Барадзін (1833—1887 г.г.), аўтар оперы „Князь Ігар“, які вылучаўся нязвыклай разгубленасцю, запрасіў да сябе на вечар сваіх прыяцеляў. Госці музыцыравалі, вячэралі, гутарылі.

Нечакана гаспадар глянуў на гадзіннік, паспешна ўстаў і пачаў развітвацца.

— Куды вы, Аляксандр Парфіравіч? — здзівіліся госці.

— Выбачайце, мне пара ісці дамоў: у мяне заўтра ранiцай лекцыя.

Раздаўся ўзрыў смеху, і толькі тады Барадзін усвядоміў, што ён у сябе ў хаце.

*

Аднойчы Аляксандр Барадзін, выходзячы з хаты, спадзяваўся, што падчас яго адсутнасці да яго можа прыйсці хто-небудзь з яго прыяцеляў, і таму прыкалоў да дзвярэй запіску: „Буду праз гадзіну“. Вярнуўся ён праз нейкі час і, убачыўшы запіску, неяк змаркоціўся, уздыхнуў і ўладзіўся на лавачцы, чакаючы... самога сябе.

## ТОЛЬКІ ДЫМНЫМ

Размаўляюць двух паляўнічых:

— Якім порахам вы заражаеце патроны, калі палюеце на дзіка?

— Толькі дымным.

— Ён што — мацней б'е?

— Не. Пакуль дым рассеецца, я паспяваю на дрэва ўлезці.

Ніхто гэтак не цэніць давер у чалавеку, як ашуканец.

## ШТО МНЕ РАБІЦЬ?

Кончылася маё вальготнае жыццё. Раней, бывала, прыйдзеш з работы — за вуды і на рыбалку. Нічога што жонка, адна не ўпраўляючыся на гаспадарцы, такі падымала вэрхал, ажно ў суседніх вёсках было чутна.

Але цяпер справа змянілася. Нядаўна, прадаўшы сваю няўдаліцу-карову, мы з Хрысцінай вырашылі купіць лепшую. Ходзім па рынку, выбіраем. Бачу, мая Хрысціна, аблюбаваўшы адну карову, штосьці гутарыць з яе гаспадаром. Няйначай дагаварваюцца. А калі я падышоў бліжэй, Хрысціна пачала мне гаварыць.

— Давай купім, такая карова!

— Ну што ж, купім.

Прывёўшы яе з рынку, Хрысціна ўзяла вядро і пайшла даіць. І мяне паклікала. Як толькі прысела Хрысціна ля вымя, карова як трэснула нагой, дык вядро ля дзвярэй апынулася. Яшчэ раз падышла кабета — карова ажно вар'яцее. Здаецца, ланцуг парве. Во, думаю, купілі няшчасце. А потым Хрысціна гаворыць мне: „Мо ты паспрабуй“. Узяў я вядро, падышоў да каровы. І што б вы думалі — стаіць, як укопаная. Прыйшлося даіць і раніцай, і ў поўдзень, і вечарам. Засумавалі па мне вуды. Не вьшцерпеў я і ўжо на трэці дзень пайшоў у тую вёску, адкуль карову купілі.

Іду дадому і думаю, што мне рабіць. Той гаспадар сказаў, што яго жонка ўсё жыццё хварэе і карову ён сам даіў. Вось чаму яна жанчын не дапускала да сябе. Няўжо і мне цяпер прыдзецца ўвесь час даіць? Прадаваць не хочацца, столькі малака дае — другой такой не купіш. А калі я запытаў у яго, чаму не сказаў нам аб гэтым яшчэ на рынку, дык ён паведаміў такое, што мне аж млосна стала. Аказваецца, калі яшчэ да майго прыходу Хрысціна аглядала карову, гэта чалавек сказаў:

— Карову толькі мужык даіць будзе. Цябе не падпусціць.

— Будзьце спакойны. Гэтым майго Рыгора не спалохаеце. Ён і так увесь час доіць у мяне карову, — схлусіла Хрысціна.

Не баба, шэльма. Вось дык адпомсціла мне за тое, што раней па гаспадарцы не дапамагаў. Ну што ж зробіш? Бывай, рыбалка!

І. Багіно

Рисунок В. МОХОВА.

## ПАЗНАЁМІЛІСЯ Ў БУДЦЫ

Муж і жонка важаць разам больш за дзвесце кілаграмаў. Суседзі здзіўляюцца.

— Як яны знайшлі адзін аднаго?

— У тэлефоннай будцы. Ён спрабаваў выйсці з яе, а яна — увайсці.

Мал. Уладзіміра Абараяна.

Мал. Барыса Эрэнбурга.

Мал. Іранэўша Пажышка.

Чалавек — найдасканальшае тварэнне прыроды, а колькі ў ім недаробак!